*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# Наша Слова




*Але!*
**ТЭЛЕЖУРНАЛІСТКА ХРУШЧОВА Ў ЯКАСЦІ ШТУРМАВІКА**
Стар. 2.

Штотыднёвік
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)
№ 20 (284)
16 траўня 1996 г.
Кошт — 1000 рублёў

*У суседзяў*
**А ПРЭЗІДЭНТ ХОДЗІЦЬ У БІБЛІЯТЭКУ**
Стар. 4.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ПРЫЗНАЎ** паўнамоцтвы дэпутатаў з Віцебска і Менска Алега Гарбунова і Валерыя Драко, лёс якіх неаднойчы разглядалі ў Цэнтрвыбаркаме і пракуратуры. На сённяшні дзень дэпутацкі корпус нашага парламента складае 199 чалавек.

○ ***У СІСТЭМУ СРОДКАЎ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*** *на сённяшні дзень уваходзяць 897 перыядычных выданняў. Сярод іх — 631 газета, 217 часопісаў, 49 бюлетэняў. З іх 587 — гэта недзяржаўныя перыядычныя выданні.*

○ **ДА 30 КРАСАВІКА КАЛЯ 70 ПРАЦЭНТАЎ ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** звярнуліся з заявамі для афармлення імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць». За «бортам» гэтага мерапрыемства, паводле звестак Міндзяржмаёмасці, засталіся ў асноўным маладыя людзі.

○ ***У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ****, згодна якога афіцыйна вяртаецца сцяг неіснуючага СССР, які будзе ў час дзяржаўных свят выкарыстоўвацца разам з Дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь. Калі ж беларусам, якія спрадвеку жылі на сваёй зямлі і жывуць, будзе вернута ў іх школы і дзяржаўныя ўстановы найвялікшае багацце — беларуская мова?*

○ **У СВЕТ ВЫЙШАЎ 100 НУМАР ЧАСОПІСА «РОДНАЕ СЛОВА».** З гэтай нагоды 23 траўня ў Доме літаратара адбудзецца святочная імпрэза. Віншуючы супрацоўнікаў «Роднага слова», жадаем ім надалей плёну на ніве беларушчыны.

○ ***З ПРАЕКТАМ ПРАДСТАЎНІЦТВА ААН У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ «ДЭМАКРАТЫЯ, ДЗЯРЖАЎНАЕ КІРАВАННЕ І ЎДЗЕЛ» АЗНАЁМІЛІСЯ*** *кіраўнікі парламенцкіх камісій Вярхоўнага Савета нашай краіны. Мэтай праекта з'яўляецца аказанне тэхнічнага садзейнічання па падтрымцы інстытутаў дэмакратыі, стварэнне эфектыўнай інстытуцыйнай і прававой сістэмы абароны правоў чалавека і дэмакратыі.*

○ **У МЕНСКУ АДБЫЎСЯ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ЖУРНАЛІСТЫКІ «ЗАЛАТОЕ ПЯРО-96».** На фестывалі беларускай прэсы былі ўручаны прэміі і дыпломы за лепшыя журналісцкія работы ў 1995 годзе Андрэю Кукевічу (газета «Белорусская нива»), Аляксандру Шабаліну (часопіс «Беларусь»), Людміле Саянковай (факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта), Сяргею Крапівіну («Народная газета»), Уладзіміру Нікалайчуку (газета «Рэспубліка»), Таццяне Ягоравай (тэлекампанія ФІТ). На фестывалі, які гучна называўся фестывалем беларускай прэсы, практычна не гучала беларуская мова. У якой краіне мы жывём?

○ ***У АКАДЭМІЧНЫМ РУСКІМ ДРАМАТЫЧНЫМ ТЭАТРЫ АДБЫЛАСЯ ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ «БЕЛАЯ КВЕТКА».*** *А збіраліся тут супрацоўнікі і падапечныя Беларускага дзіцячага хоспіса, які існуе ўжо больш за 3 гады і дапамагае хворым дзецям.*

○ **НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА»** упершыню ў гісторыі свайго існавання правёў Марш паркаў. У ходзе Маршу адміністрацыя ДНП «Белавежская пушча» арганізавала «круглы стол» з удзелам навуковых супрацоўнікаў і эколагаў.

*Меркаванні*

## ТБМ патрэбна рэфармаванне

*Артыкул друкуецца ў якасці дыскусійнага, і выказаныя ў ім думкі не абавязкова супадаюць з пунктам гледжання рэдакцыі*

У якім стане апынулася ТБМ? Фармальна гэта краёвая грамадская арганізацыя, якая мае разгалінаваную структуру ва ўсіх рэгіёнах і яднае многія тысячы сяброў — прыхільнікаў беларускай мовы. Але рэальны стан рэчаў склаўся інакш, гэта не сакрэт і не навіна. Сёння Таварыства, па сутнасці, амаль спыніла сваю дзейнасць. Пераважная большасць першасных суполак існуе толькі на паперы, дзеюць адзінкі. Амаль цалкам спынілася сувязь паміж мясцовымі арганізацыямі і цэнтрам. Спынена выданне Таварыствам літаратуры і блізкая да спынення гаспадарчая дзейнасць. З прычыны невыканання Таварыствам рашэнняў гарадскіх уладаў сталіцы належныя ТБМ камерцыйныя кіёскі зачыняюцца. Запазычанасць арганізацыі за арэнду памяшкання сядзібы сягнула 50 мільёнаў рублёў. Звальняюцца штатныя супрацоўнікі ТБМ, бо доўгі час яны не атрымліваюць зарплаты. І самае галоўнае, не выконваюцца пункты Статута ТБМ: не ажыццяўляецца заканадаўчая ініцыятыва, арганізацыя не ўдзельнічае ў выбарах, не абараняе правы і інтарэсы сваіх сяброў.

Сёння ТБМ найбольш нагадвае Таварыства цвярозасці, якое ў савецкі час на хвалі антыалкагольнай кампаніі перажыло ўздым і дало мноства прафесійных цвярознікаў, а потым ціха сканала. Цяпер ціха канае ТБМ, і з гэтай прычыны час, хай і запознена, спытаць: чаму так адбываецца? Чаму яно не мае падтрымкі ініцыятараў — Саюз пісьменнікаў БССР (Саюз пісьменнікаў Беларусі), Міністэрства народнай адукацыі БССР (Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь), Міністэрства культуры БССР (Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь), Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа АН БССР (Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа АНБ), Інстытут літаратуры імя Я.Купалы АН БССР (Інстытут літаратуры імя Я.Купалы АНБ), Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Савецкага фонду культуры (Беларускі фонд культуры), Дзяржкамвыд БССР, Таварыства «Радзіма», «Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі», Дзяржтэлерадыё БССР (Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь). Чаму арганізацыя, якая яшчэ ў 1991 годзе магла займацца знешнеэканамічнай, камерцыйнай і выдавецкай дзейнасцю, не мае не тое што нерухомасці, а грошай, каб аплаціць перасылку звычайных лістоў у межах краю? Ды, урэшце, чаму Таварыства беларускай мовы прыйшло ў заняпад у краіне, 79 працэнтаў насельніцтва якой складаюць менавіта беларусы, а 85 працэнтаў валодае мовай у ступені, дастатковай для паразумення?

Нагадаю, з чаго пачыналася ТБМ. У 1989 годзе ініцыятарамі яго стварэння сталі не прыватныя асобы, а цэлы шэраг арганізацый і ўстаноў, створаных ці апекаваных урадам БССР. Чаму ўлада, якая на працягу дзесяцігоддзяў абмяжоўвала ўжыванне беларускай мовы і ператварала яе носьбітаў у расійскамоўных савецкіх грамадзян, раптам вырашыла ўзяць справу нацыянальнага адраджэння пад сваю апеку?

Тады, у 1989 годзе, распад СССР ужо пачаўся. Ва ўсіх яго рэгіёнах альтэрнатыву камуністам стваралі новыя арганізацыі акрэсленага незалежніцкага і нацыянальнага характару. За год да таго, у 1988 годзе ў Менску быў створаны «Беларускі Народны Фронт у падтрымку перабудовы «Адраджэньне», адным з галоўных патрабаванняў якога было аднаўленне ўплыву беларускай мовы і яе носьбітаў ва ўсіх сферах жыцця. Адказам савецкай улады нацыянальным рухам стала стварэнне інтэрфрантоў. Але ў Беларусі, дзе пазіцыі на-

*(Заканчэнне на с.3.)*

*Творчасць нашых чытачоў*

## Наша мова

Як напісана ў Бібліі, Слова
Пачынала жыцця карагод,
Так калісьці ў прашчураў мова
Парадзіла на свет наш народ.

Па жыцці яны крочылі разам,
Не кідалі адзін аднаго,
Праз часы перамог і паразаў
Да адвечнага сэнсу свайго.

І сябе на шляху шматвяковым
Неабходна было бараніць
Ад тых злыдняў, што ганьбілі мову,
Каб народ наш ушчэнт загубіць.

Колькі ўжо нашу мову хавалі,
Зневажалі ў Варшаве, Маскве...
Паніхіды па ёй адпявалі,
А яна, прыгажуня, жыве.

Вось ізноў над ёй хмары навіслі
І патрапіла мова ў бяду —
Сёння мы ад яе адракліся,
Як Пятро неяк здрадзіў Хрысту.

І ўсё ж веру я: мова ўваскрэсне —
Ёй не страшны пакутаў цяжар, —
Зазвініць жаўруковаю песняй,
Зачаруе гучаннем абшар.

Напаўняючы радасцю сэрцы,
Яна пойдзе па роднай зямлі,
Каб народу увек не памерці,
Каб заўсёды людзьмі мы былі.

**Віталь ЮРЭВІЧ.**
г.Старыя Дарогі.

*Руплівуцы*

## «Наша слова» павінна жыць!

Якой у далейшым быць выданню: элітарным ці папулярным? Мажліва і перад рэдакцыяй «Нашага слова», як перад шчырымі прыхільнікамі газеты, узнікае такое пытанне. У першым варыянце яна сваю задачу выконвае паспяхова. Адчуваецца, што вакол газеты гуртуюцца лепшыя сілы беларускай філалогіі. Тым не менш, на маю думку, значна шырэйшага кола прыхільнікаў «Нашаму слову» таксама не зашкодзіла б. Бо задача заключаецца ў тым, каб тое каштоўнае, што ёсць у газеце, даходзіла да кожнага сумленнага чалавека на Беларусі, у тым ліку да людзей, якія хоць і паддаліся русіфікацыі, але яшчэ не згубілі здаровага сэнсу і разумеюць каштоўнасць нацыянальных каранёў, у тым ліку беларускай мовы.

Такім чынам, варта рэдакцыі паклапаціцца пра большую даступнасць для ўспрымання сваіх публікацый. Трэба менш складаных і вялікіх матэрыялаў тэарэтычнага характару і больш культуралагічнай інфармацыі.

А што ў «Нашым слове» патрэба ў грамадстве існуе, сведчыць хаця б і прыклад Ашмянаў. Тут прыхільнікі беларускай мовы, прааналізаваўшы вопыт падпіскі на «Наша слова» ў І-м квартале г.г., вырашылі пасадзейнічаць яе павелічэнню ў другім квартале. Змясцілі зварот-рэкламу ў раённай газеце, адзначыўшы культуралагічную адметнасць «Нашага слова», вялі індывідуальныя размовы з людзьмі і г.д. Асабліва настойліва працаваў у гэтым накірунку супрацоўнік ашмянскай раённай газеты І.К.Высоцкі. Ён здолеў нават дамовіцца з мясцовым прадпрымальнікам С.В.Грахоўскім, каб той даў грошы на дзевяць падпісак «НС». Газету выпісалі для арганізацый горада, бо тыя па беднасці эканомяць сродкі і на падпісцы на перыёдыку.

Каб прадоўжыць падпіску нашай газеты на трэці-чацвёрты кварталы, Іван Канстанцінавіч Высоцкі падрыхтаваў у раёнцы чарговую старонку «Погляд спажыўца», ганарар за якую вырашана пусціць на гэтую справу.

Ну, а па выніках другога квартала, дзякуючы нашым ашмянскім руплівуцам беларушчыны, колькасць выпісаных асобнікаў «Нашага слова» ў Ашмянскім раёне павялічылася больш чым у чатыры разы. Работа ў накірунку заахвочвання людзей да падпіскі на «Наша слова» працягваецца і цяпер. Канешне, поспех справы залежыць яшчэ і ад арыентацыі самой газеты на больш шырокае кола чытачоў.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ.**
г.Ашмяны.

**Ад рэдактара.** *Мы ў рэдакцыі з вялікім хваляваннем і ўдзячнасцю прачыталі ліст спадара Міхаіла Пузіноўскага. Вялікая наша ўдзячнасць Вам, дарагія сябры з Ашмянаў! Са свайго боку пастараемся зрабіць усё ад нас залежнае, каб «Наша слова» было карыснае і цікавае самаму шырокаму колу беларускага грамадства, якое разумее вялізнае значэнне для годнага чалавечага жыцця нацыянальнай культуры і мовы.*

*Што да парад чытачоў, то мы вельмі ўважліва да іх прыслухоўваемся і стараемся ўлічыць у падрыхтоўцы газеты. Кожная Ваша парада, дарагія сябры, для нас мае вялікую каштоўнасць.*

*З удзячнасцю і сяброўскімі прывітаннямі — калектыў рэдакцыі «Нашага слова».*

**ПАДПІСКА.** Наша слова. Індэкс 63865
Кошт: на 6 месяцаў 30000 рублёў
на 3 — 15000 рублёў
на 1 месяц 5000 рублёў

Рупліўцы

# Гонар маем

Вітаю шаноўных чытачоў «Нашага слова» з радзімы вядомага габрэйскага беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі. 23 красавіка ўсе мы, сябры беларускай мовы і культуры, адзначылі 110-ю гадавіну з дня нараджэння свайго славутага земляка, калыска якога была тут, на Лагойшчыне, у вёсцы Пасадзец, дзе я сёння жыву і працую. Як многія прыхільнікі беларускай культуры, як магу, спрыяю адраджэнню нашых нацыянальных вытокаў. Па адукацыі я гісторык, працую загадчыкам клуба ў в.Пасадзец, а яшчэ актыўна займаюся краязнаўствам і прапагандай беларускай мовы. На жаль, даводзіцца пагадзіцца са сп.Лявонам Баршчэўскім, які ў «Нашым слове» выказаў думку, што далёка не ўсе наша настаўніцтва спрыяе беларускасці, не разумеючы, што сячэ сук, на якім сядзіць.

Нядаўна я на бацькоўскім сходзе, згадаўшы высокі прыклад Змітрака Бядулі, унёс прапанову: «Давайце выканаем сваё жаданне аб прыярытэце нацыянальнай, беларускай мовы ў сістэме школьнага навучання». І што атрымалася? Настаўнікі нашай сярэдняй школы адзін за адным пачалі і так, і гэтак казаць, што ўсё і так добра, і яны не разумеюць, чаго гэта яшчэ дамагаецца спадар Мікола Сідарэвіч, я, значыцца. А дырэктарка школы Т.П.Сухадолец чамусьці ўвогуле вырашыла, што я яе крыўджу. Словам, адпаведна настроілі педагогі бацькоўскі сход, пачуліся абразы ў мой адрас. Вось адно з «цікавых» пасвойму выказванняў: «Вы его слухаете! Разві такое можа прыдлажыць чалавек з высшым абразаваніем! Пустое ўсё гэта. Такое можа зрабіць толькі бабушка, выжывшая з ума». Ці яшчэ: «Ды он бальной чалавек! Што вы яго слухаеце! Я ж пазнала, што ён бальны, кагда ён хадзіў па хатах і збіраў у старых бабуляк фатаграфіі, нешта абы-што запісваў...»

Адным словам, мне «ўсыпалі». Настаўніцы не хавалі ўсмешак задавальнення. Больш таго, яны паведамілі старшыні сельсавета А.С.Пекарту пра мае «кепскія» паводзіны, і той знайшоў час, каб мяне паставіць на «шлях ісціны»: «Что это, ты Микола, заставляеш людзей учить белорускую мову? Можа, людзі ня хочуць, а ты, панимаеш, заставляеш их. Обидел уважаемых людзей. Сказал, что они «делают антипедагогические поступки...» і г.д.

Божа літасцівы, як трываць такое! Гэта ж толькі кропля таго, што даводзіцца цярпець дзень за днём на радзіме Зм.Бядулі, Альфонса Петрашкевіча, слынных у свой час братоў Ясінскіх, Квяткоўскіх, Якава Палачаніна, А.Смоліча, Л.Радзевіча, іншых сапраўдных беларусаў. Нельга абмінуць і такіх ураджэнцаў Лагойска, як графы Кастусь і Яўстах Тышкевічы — асветнікаў і навукоўцаў, пра якіх я збіраю звесткі, а як мастак ствараю краявіды мясцін, звязаных з жыццём гэтых славутых землякоў. Ды цешыць, што да мяне горнуцца дзеці-школьнікі, слухаюць, распытваюць, просяцца разам у краязнаўчыя падарожжы па родных мясцінах, дапамагаюць збіраць археалагічныя матэрыялы для стварэння краязнаўчага (матэрыяльнага) музея. Праўда, і тут той-сёй даносіць «па начальству», што я раблю нешта кепскае, нават на выканкаме Зарэчскага сельсавета пытанне ставілася, адна з настаўніц нават прапанавала мяне судзіць за ўцягванне школьнікаў у краязнаўчую працу. Канешне, з тых, хто не ведае гісторыі сваёй радзімы, раўнадушных да яе, працэй за ўсё рыхтаваць пакорлівую «рабсілу».

Тым не меней, будзем мужна і годна несці свой беларускі крыж. Час адзіноты і самоты мінуў, цяпер я адчуваю ўсё болей побачаднадумцаў, паплечнікаў, хто не абыякавы да беларускай культуры і мовы, да нашай Беларусі.

У вольны час іншым разам пішу вершы. Дазвольце адзін тут згадаць:

### Сябрам

*Нясіце светач да людзей,*
*Нясіце сцяг свабоды, творцы,*
*Няхай дрыжыць злы ліхадзей,*
*Іудам шэнціць не бясконца.*
*Хрыстос не зняў свайго вянка,*
*І ты цярпі, мой сябра мілы,*
*Крыж панясем свой да канца,*
*Пакуль хапае нашай сілы.*

**Мікола СІДАРЭВІЧ.**
в.Пасадзец.

АЛЕ! АЛЕ!

# Тэлежурналістка Хрушчова ў якасці штурмавіка

«...Аніякай забароны на правядзенне такога роду мерапрыемства не было. Але ж апазіцыйныя сілы вырашылі насуперак усяму пайсці сваім, незразумелым для большасці людзей шляхам. І звар'яцелыя энтузіясты з ліку нецвярозых студэнтаў, не занятых аніякай справай пенсіянераў і іншых бязмэтна швэндаючых грамадзян сцягнуліся бліжэй да Акадэміі навук, адкуль, дарэчы, увесь сённяшні спектакль і пачаўся. Складалася ўражанне, што прыйшлі сюды ў чаканні прыгод і вострых відовішчаў, а не для таго, каб ушанаваць памяць ахвяр Чарнобыля. Не ведаю, чым кіраваліся народныя выбраннікі — арганізатары мітынгу, калі, усё ж-такі сабраўшы які-ніякі натоўп, імкнуліся кіраваць працэсам, седзячы ў аўтамабілі і заклікаючы быццам бы да парадку.

Ну а парадак гэты выліўся ў жахлівае відовішча. Мітынгуючыя, якія не чулі ўжо аніякіх заклікаў і просьбаў, дзейнічалі, як натуральныя звяры: перакульвалі машыны, знослі на сваім шляху ўсё жывое, што перашкаджала рухацца невядома куды. Бо ніхто з гэтага натоўпу не памятаў ужо ні пра дзесятыя ўгодкі чарнобыльскай катастрофы, ні пра тое, што яшчэ гадзіну таму ўсе гэтыя істоты зваліся людзьмі. Пра Чарнобыль на гэтым шэсці гаворкі ўвогуле не было — крычалі пра ўсё, што прыйдзе на розум, але ж не маючы аніякага ўяўлення ні пра мэту, ні пра сэнс выказванняў. Усё гэта нагадвала не «Чарнобыльскі шлях», а шлях у бездань, які абрала для сябе частка апазіцыі і не дужа кемлівых іх паплечнікаў. Зусім незразумела, што жадалі выказаць такімі дзеяннямі тыя беларусы, якія, як і ўсе мы, жывём у краіне, што найбольш пацярпела ад радыяцыйных наступстваў Чарнобыля. Для гэтых людзей чужое гора стала гульнёй, палітычнай гульнёй. І, дарэчы, такая гульняператваралася сёння ў жах для многіх. Былі ахвяры. І сярод іх — здымачная група АТН. Мы так і не змаглі закончыць свой рэпартаж, бо перакуленых машын некаторым паказалася мала, і нам разбілі камеру».

Гэткім каментарыем журналісткі тэлевізіі Інгі Хрушчовай быў аздоблены рэпартаж пра «Чарнобыльскі шлях», які ўвечары 26 красавіка на экранах тэлевізараў убачылі мільёны жыхароў Беларусі ды сумежных краін. Гэтыя людзі, вядома ж, жахнуліся, пачуўшы з вуснаў тэлежурналісткі пра тысячы істотаў, не годных звацца людзьмі — вар'ятаў, што знослі ўсё жывое, рухаючыся «невядома куды».

Але ці шмат праўды ў словах тэлекаментатара? Іншыя сведкі тых падзеяў маюць свае меркаванні пра яе асобу і творчасць.

**Эдвард Тарлецкі**, карэспандэнт «Радыё Свабода»:

— У сваім тэлерэпартажы Інга Хрушчова паведаміла, што сярод пацярпелых у час шэсця «Чарнобыльскі шлях» былі ўдзельнікі здымачнай групы АТН, у якасці доказу паказаўшы на экране мой заліты крывёю твар. Таму я мушу ўдакладніць: здымачная група — Хрушчова і яе аператар — не пацярпелі. Нічога не здарылася і з іхняй камерай, проста ў натоўпе з яе сарвалася бленда — гумавая насадка на аб'ектыў. Сам я ў склад групы не ўваходзіў, бо на тэлевізіі не працую ўжо даволі доўгі час. Да таго ж, са словаў Хрушчовай можна было зразумець, што мяне збілі ўдзельнікі шэсця. Гэта няпраўда. Тое, што са мною здарылася, — справа рук АМОНа.

**Зоя Рузанава**, пенсіянерка:

— Гэта адбылося пасля таго, як «Чарнобыльскі шлях» мінуў плошчу Якуба Коласа. Міліцыянты перагарадзілі дарогу шэсцю і людзі з дарогі пачалі пераходзіць на ходнік. Гэтак жа зрабіла і я. А тым часам на дарозе пачалася сапраўдная бойня: міліцыянты ў шаломах і са шчытамі пачалі збіваць людзей, якія хацелі ісці далей. Я бачыла, што асобныя АМОНаўцы трымалі ў руках не гумавыя палкі, а бутэлькі, якімі білі людзей па галовах.

Каля міліцыянтаў я ўбачыла тэлеапаратара з камерай, а побач з ім жанчыну, якую адразу пазнала. Гэта была Інга Хрушчова, каментатар тэлевізіі. «Вы бачыце, што тут робіцца?» — спытала я ў Хрушчовай. — Чаму вы не здымаеце гэта, каб бачылі ўсе?» Замест адказу яна ўдарыла мяне ў твар (я закрылася рукой), а потым у плячо. Я адвярнулася, каб сысці, а яна гналася за мной і спрабавала зрабіць падножку, каб зваліць з ног. У гэты момант АМОН рушыў наперад, людзі кінуліся ўцякаць, і разам з імі я апынулася пад брамай бліжэйшага дома. Я зноў убачыла Хрушчову і яе аператара, якім нейкая жанчына казала тое ж, што і я раней. «Иди отсюда, блядь старая!» — адказала ёй Хрушчова і ўдарыла яе па твары і нагой па калена. Усе людзі, што былі побач, акрамя міліцыянтаў, звярнулі на гэта ўвагу, і тады Хрушчова пабегла ў двары, далей ад месца здарэння. Я добра памятаю, што ніхто іх не чапаў, іхняя камера была цэлая. Наступным днём я патэлефанавала на тэлевізію начальству Хрушчовай, але пачула: «Этого не может быть!»

**Ніна Патан**, пенсіянерка:

— Найбольш мяне ў той дзень уразіла нават не тое, як гэтыя, у белых касках, збівалі людзей, а іншае. Я бачыла, як плячысты мужчына ў цывільным ударыў у твар падлетка, што ішоў каля мяне. Я выцерла яму кроў з твару і сказала: «Не бойся, прыйдзе час, і мы будзем жыць па-іншаму». А той, у цывільным, са смехам дадаў: «Арбайтэн за колючей проволокой». І пасля таго я ўбачыла, як Інга Хрушчова гналася за нейкай жанчынай. Тады іншая кабета, што стаяла побач са мной, сказала: «Хрушчова, прашу, трэба здымаць, як б'юць людзей, а не тое, што знялі вы», і пачула ў адказ: «Отойди!» Тая ўзяла журналістку за руку і прасіла: «Здыміце тое, што адбываецца!» Тады Хрушчова схапіла яе за куртку ля шыі, ударыла нагой у голень і сказала: «Иди отсюда, старая блядь!». «Вы ж хуліганка!» — сказала я Хрушчовай і пачула: «Иди отсюда и ты!» Тая жанчына была белая, як снег, і плакала...

Пазней па тэлевізіі я пачула словы Хрушчовай пра тое, што ўдзельнікі «Чарнобыльскага шляху» пабілі ёй камеру. Але ў час, калі адбывалася ўсё, пра што я гаварыла, камера была цэлая.

Журналісты маюць уласны кодэкс паводзінаў. Але свядомае распаўсюджванне ілжывых звестак, публічная знявага і збіванне пенсіянераў выходзяць па-за яго межы і датычаць кодэкса іншага — крымінальнага. Ці спыніць сіла закона тых, хто кажа словы маны і нянавісці?

**У.ПАНАДА.**

Актуальна

# Беларускі Салігорск — рэальнасць

*На пытанні журналіста Алеся Мікалайчанкі адказвае намесніца загадчыка аддзела адукацыі Салігорскага гарвыканкама Тамара Карняйчук.*

**— Шаноўная Тамара Фёдараўна! Як, на Ваш погляд, у Салігорску захоўваецца статуснасць беларускіх і расійскіх школ?**

— Пачну вось з чаго. Большасць насельніцтва ў нас прыезджыя, і вельмі вялікая колькасць людзей спачатку жадала, каб дзеці навучаліся на расійскай мове. Але ў 1991 годзе на савеце гарадскога аддзела адукацыі прынялі рашэнне аб пераводзе да 2000 года школ на беларускую мову навучання. Гэту праграму нават перавыканалі, таму што да прыняцця двухмоўя ў рэспубліцы работа з бацькамі ў школах была арганізавана так, што ўсе прыйшлі да вываду аб неабходнасці добрага ведання беларускай мовы. У нас вялікая колькасць школ не па плану, не па графіку перайшла на беларускую мову навучання з першага класа. Але калі было прынята двухмоўе, калі расійская мова набыла аднолькавы статус з беларускай, бацькі пажадалі, каб іх дзеці навучаліся па-расійску. Як у Салігорску было раней? У нас у горадзе 12 агульнаадукацыйных школ. Па рашэнні гарадскога аддзела адукацыі тады 2 школы заставаліся з расійскай мовай навучання, а астатнія 10 павінны былі да 2000 года поўнасцю перайсці на беларускую мову. Расійскамоўнымі і зараз застаюцца 2-я і 10-я сярэднія школы. Два гады таму, калі была створана англійская спецшкола, яна таксама перайшла на расійскую мову, бо ўсе дапаможнікі метадычныя, слоўнікі — на ёй. І ў нас атрымаліся тры школы расійскамоўныя поўнасцю і астатнія 9 — беларускамоўныя. А з 1995—1996 года навучання бацькі пажадалі, каб у 3-й і 8-й школах (было пытанне і па 6-й СШ) дзеці пачалі вучыцца з першых класаў па-расійску.

**— Як я разумею, прыхільнікі беларускай школы больш выступаюць за тое, каб у тых школах, якім нададзены беларускамоўны статус, была б чысціня статуса. Каб, скажам, у беларускай школе не стварыць расійскіх першых ці яшчэ якіх класаў.**

— Разумею праблему. Калі ў нас пяць гадоў таму будавалася 12-я школа, то ўжо тады было вырашана, што яна будзе поўнасцю беларускамоўная. І калі ўзводзіўся ў тым месцы новы мікраён, то нават дзіцячыя садкі перайшлі на беларускую мову выхавання. Да сённяшняга дня школа з'яўляецца беларускамоўнай. Дзеці з беларускай мовай навучання сёлета ўжо ў шостых класах. Тое ж у дзіцячых садках гэтага мікраёна. Так, наш горад, на першы погляд, вельмі кампактны. Але вялікая колькасць школ у горадзе з'яўляецца навучальнымі ўстановамі з рознымі ўхіламі. Напрыклад, 6-я школа — з музычна-харавым, 9-я — з мастацкім ухілам, 12-я — з тэатральна-харэаграфічным, 11-я — з харэаграфічным. Гэтыя школы маюць права прыняць да сябе дзяцей з усяго горада, з любога мікраёна. Таму, калі адны бацькі жадаюць навучаць дзяцей па-расійску, а другія — па-беларуску, мы ім у гэтым можам адмовіць. Хаця робім усё магчымае, каб школа займалася на адной мове навучання. Напрыклад, у 6-й школе былі такія пажаданні. Але мы здолелі паразумецца з бацькамі — дырэктар сам гэтым займаўся — і 1, 2, 3-я класы там вучацца па-беларуску. Цяжка, бо няма адпаведных метадычных дапаможнікаў. Музычна-харавы ўхіл, як вы разумееце, — гэта спецыяльныя тэрміны, спецлітаратура. Як і ў харэаграфічных класах, дзе тэрміны на французскай, а на расійскую мову пераклад даецца. Узнікла, канешне, пытанне, каб «развесці» беларускую і расійскую мовы. Але гэта справа не аднаго дня... У нас тут бацькі падымаюць праблему па беларускай гімназіі. Патрабуюць яе пераводу на расійскую мову навучання...

**— А чаму б не пакінуць беларускую гімназію ў спакоі і не стварыць у горадзе і расійскамоўную? Як гэта зроблена ў Барысаве, напрыклад?**

— Мы хацелі яе стварыць. Ды справа ў тым, што салігорскія школы перагружаны ў паўтара-тры разы адносна нормы. У нас вядуцца заняткі ў дзве, дзве з паловай і тры змены. Ужо 4 гады будуецца 14-я школа, як яна называецца па праекту. Будоўля практычна замарожаная, бо грошы, якія на яе ўзвядзенне выдзяляюцца, мізэрныя. І калі б гэта школа ўводзілася ў строй (якраз у тым мікраёне яна будуецца, дзе ў нас месцяцца расійскамоўныя школы), магчыма, можна было б стварыць расійскамоўную гімназію. І задаволіць тым самым прэтэнзіі расійскамоўных бацькоў...

**— Прабачце, але, на мой погляд, праз нейкія гаспадарчыя справы, справы арганізацыйнага кшталту, праводзіцца вельмі нераўнапраўная палітыка ў адносінах да беларускай мовы, як статуснай у сістэме школьнай адукацыі. Увявім, што знікла беларуская гімназія ў Салігорску. Гэта знікае не толькі адукацыйны, але і культурны беларускі асяродак. У вас столькі школ з гуманітарнай накіраванасцю — харэаграфічным, музычным, тэатральна-харэаграфічным, мастацкім і іншымі ўхіламі. Дзеля чаго? Каб даць магчымасць развіваць розным талентам і ўрэшце ўзбагаціць культуру. Але якую? Чыю культуру? Ці будзе Беларусь без адметнай нацыянальнай культуры? Але ці можа існаваць адметная культура без мовы? Адказ відавочны. Няўжо мы не можам, як нашы браты-расійцы, клапаціцца менавіта пра сваю мову і пры гэтым ганарыцца ёю?**

— Чаму ж не? І мы стараемся ў Салігорску. Так, беларускую гімназію заатакавалі расійскамоўныя бацькі са сваімі прэтэнзіямі. Але я ўжо казала: там кіраўніцтва, педкалектыў — людзі высокай прафесійнай падрыхтоўкі, якія разумеюць мэту гімназічнай адукацыі і як шлях да ўмацавання беларускай культуры ў Салігорску. Таму нельга сказаць, што мы тут, у шахцёрскім горадзе, прыніжаем статус беларускіх школ. Вялікую працу ў адраджэнскім напрамку робяць настаўнікі беларускай мовы і літаратуры нашых школ. І я не магу сказаць, што беларуская мова ў Салігорску прастуе ў заняпад. Так, зменшылася колькасць беларускамоўных класаў. Вельмі цяжка перагладаць мову навучання той ці іншай школы прапарцыянальна мікраёнам горада. Мы вырашылі: тыя школы, якія пачалі з першых класаў па-беларуску (гэта СШ № 5, 6, 11, 12, гімназія), то яны і будуць працягваць навучанне на роднай мове. Такім чынам, акрамя гімназіі і СШ № 12, дзе ўсё выкладанне вядзецца па-беларуску, будуць неўзабаве поўнасцю беларускімі яшчэ тры школы. Так што празнейкі час беларускую школу мы, сапраўды, «развядзём» з расійскай. Хаця і апошняй дадзім шанс на жыццё. Гэта мая афіцыйная пазіцыя як аднаго з кіраўнікоў аддзела адукацыі горада Салігорска.

**У газетах**

## Маленькім спевакам — ад мясцовай Рады ТБМ

«Даўно не чулі тыя, хто мае непасрэдныя адносіны да дзяцей, што ўмацоўваюць сваё здароўе ў невялічкім дзіцячым санаторыі «Сонейка», на беразе Руднянскага вадасховішча, мілагучнай беларускай песні... Неяк склалася тут традыцыя... спяваць толькі расійскія песні. І вось, нарэшце, па ўзгадненні з загадчыцай навучальнай часткі санаторыя Мішуткінай Ірынай Барысаўнай вырашылі даць невялікі канцэрт сіламі дзяцей. І загучала беларуская мова!

Прыйшлі паслухаць даўно тут забытую беларускую народную песню і галоўны ўрач санаторыя Фёдар Іосіфавіч Шпігель, і доктар Іван Іванавіч Эйсмантовіч, і бібліятэкары, і санітаркі. Лепшым выканаўцам песень ад Слуцкай раённа-гарадской Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны былі ўручаны невялікія падарункі.

Іх атрымалі вучаніца Мазырскай СШ № 3 Зоя Чарняўская, школьніца з СШ № 36 г.Гомеля Ірына Марозька, навучэнка СШ № 1 г.п. Шуміліна Наталля Шаёнак, яшчэ адна мазыранка Таццяна Гаўрылава (СШ № 12) і вучань ленінскай сярэдняй школы Жыткавіцкага раёна Міхась Аладак»...

**(«Дзіва», № 15, 1996, г.Слуцк.)**

## У савецкім войску беларусы ўжо былі...

«...Галоўная мэта ўсіх грамадзян Беларусі — гэта захаванне незалежнасці сваёй краіны ў поўным аб'ёме, нягледзячы на спакуслівыя прапановы аб стварэнні розных канфедэрацый і федэрацый.

Варта адзначыць, што ў сучасным свеце канфедэрацый у класічным выглядзе ўжо не засталося, а спробы іх стварэння ў XX ст. аказаліся марнымі (дастаткова ўспомніць аб'яднанне Егіпта і Сірыі).

Федэратыўная дзяржава перш за ўсё мае агульныя фінансы, грошы і самае галоўнае — войска. Таму любыя наднацыянальныя органы Беларусі і Расіі, якія ўціхую ад народа ствараюць у Маскве і Менску, неўзабаве пераўтворацца ў саюзнае войска. А ў савецкім войску беларусы ўжо былі і добра памятаюць пра Фінскую альбо Афганскую войны»...

**(«Салідарнасць», № 11, 1996 г., г.Салігорск.)**

## У гонар славутага суайчынніка

«...У Цэнтральнай маладзечанскай бібліятэцы імя Багдановіча адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 86-годдзю нашага славутага суайчынніка акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі і вядомага грамадска-асветніцкага дзеяча Барыса Уладзіміравіча Кіта.

Яго жыццё цесна знітавана з гістарычнымі падзеямі XX стагоддзя, жыццём беларускага народа, пакручыстымі шляхамі беларускага інтэлігента. Апынуўшыся не па сваёй волі ў эміграцыі ў ЗША, ён змог выйсці на сусветную арэну, захаваўшы вернасць беларушчыне, нацыянальнаму духу, адданасць сваёй Бацькаўшчыне.

— Барыс Кіт з тых людзей, што ствараюць гонар любой нацыі ў любой краіне, — зазначыла на ўрачыстай вечарыне член Саюза пісьменнікаў Беларусі, дацэнт Беларускага універсітэта культуры Лідзія Савік.

У гэты дзень у кінатэатры «Радзіма» была паказана дакументальная кінастужка пад назвай «Душа не падарожніца», створаная студыяй «Летапіс», Рыгорам Ясінскім і Львом Слобіным. Прысутных узрушылі кінакадры, на якіх з невялікага пакойчыка ў Франкфурце-на-Майне, дзе зараз жыве вучоны, да нас звяртаецца мудры чалавек з запаветамі любіць і шанаваць сваю Айчыну, родную мову, сваю нацыянальную культуру і навуку, фарміраваць свае светапогляды на агульначалавечых, гуманістычных каштоўнасцях. Пасля паказалі падарожжа чалавека па паверхні Месяца, здзейсненае ў выніку паспяховай рэалізацыі амерыканскай праграмы «Апола», у стварэнні якой браў удзел і сам Барыс Кіт».

**(«Рэгіянальная газета», № 5, 1996 г., г.Маладзечна.)**

## Негры і нашы да іх адносіны

«...Ці існуе ў нашым грамадстве расавая непрыязь або, як гэта называецца ў Амерыцы, бытавы расізм? Так! Адмаўляць яго наяўнасць было б дваістасцю. Адна справа — старасавецкі фільм «Цырк» і зусім іншая — жыццё. Было сорамна чуць, як у адрас прыстойнай пані і яе чарнаскурага спадарожніка ў аўтобусе зрабілі заўвагу: маўляў, толькі асобы пэўнага гатунку дазваляюць сабе блудзіць з усялякімі там чарнамазымі. Дарэчы, нашага «прыхільніка расавай чысціні» тут жа папракнулі, што «гэты негр, магчыма, хоць не п'е, як ты»... Зразумела, негры ў нас трапляюцца розныя — Афрыка, як вядома, да дзіўнага шматаблічная і разнастайная, і яе «пасланнікі» зусім не абавязкова павінны адпавядаць самым высокім культурным і маральным крытэрыям.

Аб здзіўляючай неразборлівасці Савецкага Саюза ў выбары «чорных сяброў» сведчыць, напрыклад, той факт, што сярод іх адзін час лічыўся нават угандыйскі дыктатар Іды Амін. Калі наш эфіопскі «сябра» Менгісту абвінавачваўся сусветнай супольнасцю толькі ў развязванні масавага тэрору супраць уласнага народа, то Іды Амін, акрамя гэтага, слушна падазраваўся ў канібалізме»...

**(«Грамадзянін», № 12, 1996 г.)**

**Прачытаў А.М.**

***Меркаванні***

# ТБМ патрэбна рэфармаванне

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

цыяналаў ніколі не былі моцнымі, улады пайшлі іншым шляхам. Нацыянальную ініцыятыву БНФ мелася пераняць арганізацыя падкрэслена непалітычная і культурніцкая. Яна была створана і атрымала назву Таварыства беларускай мовы.

ТБМ мела шмат заснавальнікаў, але кім былі сябры новай арганізацыі? У час заснавання новай арганізацыі беларускай мовай у БССР карысталіся тры групы насельніцтва:

1) Этнічныя беларусы, пераважна вяскоўцы, далёкія ад палітычных ці нацыянальных праблем.

2) Частка інтэлігенцыі, якая мелася стварыць беларускі антураж БССР, — літаратары, журналісты, мастакі і г.д.

3) Беларусы, паходжанне і перакананні якіх не дазвалялі ім узняцца па прыступках сацыяльнай лесвіцы.

ТБМ стваралася беларускай савецкай элітай, але адбылося нечаканае: сябрамі Таварыства стала мноства інтэлігентаў — маргіналаў з трэцяй групы, якія імкнуліся скарыстаць у сваіх адраджэнскіх мэтах легальны статус арганізацыі і аказаную ёй дзяржавай падтрымку. Гэткім чынам ТБМ ад пачатку не з'яўлялася масавай грамадскай арганізацыяй. Па-за сферай уплыву апынулася пераважная большасць беларускамоўнага насельніцтва, ад імя якога з трыбун Таварыства прамаўлялі людзі, для якіх мова была сродкам альбо выканання службовых абавязкаў, альбо павышэння грамадскага статуса.

Нягледзячы на непадабенства поглядаў, сябры ТБМ — як «шчырыя», так і «прафесійныя» беларусы — мелі агульную асаблівасць. У пераважнай большасці яны з'яўляліся работнікамі так званай бюджэтнай сферы, ці, папросту кажучы, дзяржаўнымі службоўцамі. З гэтае прычыны ад самага пачатку сваёй дзейнасці яны абапіраліся на грашовую, тэхнічную, юрыдычную і арганізацыйную падтрымку дзяржавы, а не на ўласныя сілы. На ўзор усіх створаных дзяржавай раней структур фармавалася і Таварыства са сваімі суполкамі, утворанымі паводле вытворчага прынцыпу, ды запазычанай у КПСС іерархічнай пірамідай: суполка — раённая — гарадская — абласная — рэспубліканская арганізацыя.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што створаныя пры дзяржаўных установах на загад зверху суполкі ТБМ аказаліся чыстай фікцыяй. Жыццяздольнымі сталі толькі тыя з іх, якія ствараліся ці кіраваліся «адраджэнцамі». Але плёну з іх дзейнасці было няшмат: пірамідальная структура ТБМ прадугледжвала кіраванне зверху, а не падахвочванне ініцыятывы.

Чым у такім разе было Таварыства? Часткай дзяржаўнай машыны, структурай, якая здзяйсняла ўрадавую праграму пашырэння сферы ўжытку беларускай мовы: за дзяржаўныя сродкі ладзіла курсы вывучэння мовы, за дзяржаўныя сродкі друкавала ў дзяржаўным выдавецтве патрэбную дзяржаве літаратуру, на дзяржаўныя сродкі ўтрымлівала свой апарат.

Гэтак адбывалася да часу, пакуль савецкія людзі, што сядзелі на высокіх урадавых пасадах, нарэшце зразумелі: нацыяналы не ствараюць пагрозы іхняй уладзе. Сітуацыя імкліва змянілася і захадам, зробленым кіраўніцтвам дзяржавы, — прэзідэнцкім выбарам, мінулагодняму рэферэндуму, дамове аб інтэграцыі з Расіяй ды іншаму — ТБМ, якое гаварыла ад імя беларускай большасці, не здолела супрацьпаставіць ні заканадаўчай ініцыятывы (гл. пункт 1,5 Статута ТБМ), ні чаго іншага. За чатыры гады існавання арганізацыя не стварыла ні дзейснай структуры, ні фінансавай базы, ні сеткі функцыянераў. І, што найгорш, аказалася, ТБМ не мае шырокай сацыяльнай базы, бо ад пачатку свайго існавання яно абапіралася на прадстаўнікоў старой ці новай нацыянальнай эліты, пакінуўшы ў баку мільёны людзей, якія гаварылі па-беларуску не з перакананння ці службовай патрэбы, а проста з прычыны вясковага кансерватызму і нават не ведалі пра існаванне Таварыства.

Што чакае ТБМ? Пад час размоваў з сябрамі Сакратарыята мне даводзілася чуць два меркаванні аб будучыні арганізацыі. Першае — яна мусіць дзейнічаць адпаведна прынцыпу: «Вярніце беларусам хаця б тое, што яны мелі ў савецкі час!» Другое — бачанне ТБМ як грамадскай арганізацыі, занятай ці не выключна пытаннямі філалогіі і існуючай на ахвяраванні фундатараў.

На мой погляд, ад Таварыства сёння патрабуецца значна больш: радыкальная перабудова структуры, перагляд Статута, мэтаў арганізацыі і вызначэнне сродкаў іх дасягнення паводле наступнага плана:

1. Мэтаю існавання ТБМ мае быць не адраджэнне беларускай мовы — яна не памерла, а абарона і прадстаўленне інтарэсаў яе носьбітаў — беларускамоўнай часткі насельніцтва краіны ды абарона суверэнітэту Беларусі як умовы захавання культуры і мовы карэннага насельніцтва.

2. Дзейнасць ТБМ павінна набыць праваабарончы характар. Абмежаванне права беларусаў карыстацца сваёй мовай павінна разглядацца як парушэнне нормаў Канстытуцыі і правоў асобы. Кожны беларус, які адчувае моўную ці этнічную няроўнасць, павінен мець ад ТБМ эфектыўную юрыдычную падтрымку. Патрэбна наладжванне сувязяў з міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі.

3. ТБМ мае быць ператворана ў арганізацыю, кіраваную грамадскай ініцыятывай, а не дзяржавай. З яго, у т.л. са складу заснавальнікаў, неабходна выключыць арганізацыі і асобаў, якія дзейнічаюць не на карысць беларушчыны.

4. Неабходны перагляд крытэрыяў вылучэння сяброў Таварыства на кіраўнічыя пасады.

5. ТБМ павінна пашырыць сваю сацыяльную базу за кошт тых грамадскіх груп, удзел якіх у дзейнасці Таварыства дагэтуль быў абмежаваным — работнікаў, сялян, прадпрымальнікаў.

6. Дзеля выканання трох папярэдніх пунктаў ТБМ павінна здзейсніць перарэгістрацыю сяброў.

7. Ствараючы новую структуру, ТБМ павінна адмовіцца ад недзеяздольнай пірамідальнай структуры, ад вытворчага прынцыпу фармавання першасных арганізацый і прынцыпу калектыўнага сяброўства на карысць сяброўства індывідуальнага. Сябры ТБМ пазней могуць ствараць суполкі паводле вызначаных імі самімі прынцыпаў.

8. Задача цэнтральнай сядзібы ТБМ — не кіраванне, а збор і распаўсюджванне інфармацыі аб ініцыятывах сяброў Таварыства, каардынацыя іх дзейнасці.

9. Разумеючы, што беларуская дзяржава не стварае ўмоваў развіцця беларускай мовы і культуры, ТБМ павінна мець выдавецкія, інфармацыйныя, адукацыйныя, прапагандысцкія ды іншыя праграмы, паралельныя дзяржаў-ным, але беларускамоўныя. Іх прызначэнне — задавальненне ўсіх патрэбаў беларускай сям'і, якая з'яўляецца найбольш трывалым асяродкам беларушчыны.

10. ТБМ павінна актыўна дзейнічаць у асяроддзі расійскамоўных беларусаў. Для старэйшага іх пакалення неабходныя праграмы адукацыйныя (азнаямленне з гісторыяй) і прапагандысцкія — фармаванне ў вачах грамадства станоўчага вобраза носьбітаў беларускай мовы. Для моладзі — ператварэнне эпасу і меласу, нацыянальнай і гістарычнай сімволікі ды атрыбутыкі ў элементы масавай маладзёжнай культуры.

11. Рэалізацыя згаданых вышэй праграм, актыўная камерцыйная дзейнасць сяброў і арганізацый ТБМ, спрыянне нацыянальнаму прадпрымальніцтву, рэгулярны збор сяброўскіх складак павінны забяспечыць фінансавую базу арганізацыі.

Вынікам рэалізацыі гэтага плана, дапоўненага іншымі сябрамі арганізацыі, павінна стаць яе ператварэнне з замкнёнай супольнасці ў нацыянальны рух, дзеючы экспансіўна ў асяроддзі людзей, свядомых сваёй беларускасці.

**Уладзімір ПАНАДА,**
**сябра Сакратарыята ТБМ.**

# *Патрымаў плакат — пад «каўпак»*

Пазнаёміўся ў «Нашым слове» № 15 з лістом сп.В.Мартыненкі «За беларускую мову — дубінай па галаве». Спачуваю яму, як брату. Дарэчы, я і сам пазнаў ганьбу ад міліцыянтаў за нешта падобнае. Але аб гэтым крыху пагадзя.

Спачатку хачу паразважаць пра факты падзеяў 24 сакавіка ў Менску. Прыйшоў да высновы: наша начальства цынізм і няпраўду ўзводзіць у ранг дзяржаўнай ідэалогіі. Так, на «великом и могучем», напрыклад, сп.Замяталін з растоўскім прафесарам сп.Акулавым кажуць па БТ, што 24 сакавіка выйшлі на праспект Скарыны «ўсяго» 5 тыс. чалавек, частка якіх была нібыта на падпітку. Нібыта дэманстранты былі ашуканы «бывшими». Магчыма, пад «бывшими» маюць на ўвазе С.Шушкевіча, М.Грыба, З.Пазьняка, С.Антончыка і інш. Але ж ва ўсялякім разе Г.Карпенка, А.Дабравольскі пад гэту мерку аніяк не падыходзяць. Далей здзекліва кажуць: сярод іх былі «молодые соловьи». Названы па прозвішчу П.Знавец. Дык мушу адзначыць ад імя свядомых берасцейцаў, што Павел Знавец — гонар нашай вобласці ў новым складзе Вярхоўнай Рады. Між іншым, П.Знавец у ліку 9-ці у ВС, хто заўважаны ў актыўным карыстанні беларускай мовай. (Акрамя вышэй названых дэпутатаў, беларускай мовай у ВС карыстаюцца П.Краўчанка, калі-нікалі А.Лябедзька, Л.Сечка, а апошнім часам і спікер ВС С.Шарэцкі зрабіў ласку ўжыць яе з нагоды Дня Канстытуцыі.)

Але пра тое, што ўзначальваў аргкамітэт па святкаванні ўгодкаў БНР намі любімы з дзяцінства Васіль Уладзіміравіч Быкаў — ані слова. Нявыгадна абвяшчаць? Ды куды ўжо было «рабіць рэкламу» пісьменніку, які выступіў супраць фашыстоўскіх памкненняў некаторых высокіх асобаў. А між іншым Аляксандр Рыгоравіч раней захапляўся пісьменнікам Васілём Быкавым. Так ён ва ўсялякім разе казаў нам, берасцейцам, у Палацы прафсаюзаў.

Адной з галоўных рыс нашай культуры з'яўляецца павага да старэйшых. Дык каму ж як не знакамітаму пісьменніку, творы якога перакладзены на 17 моваў свету, пісьменніку, які з'яўляецца сумленнем нашай нацыі, і карыстацца правам павагі. Васіль Быкаў быў ужо знакамітым, калі цяперашнія першыя людзі пры ўладзе «хадзілі пад стол пешкі». Не, яго стараюцца адціснуць у «цень», калі не абразіць непрыхавана.

А ўвогуле, у якой нармальнай дзяржаве за карыстанне роднай мовай б'юць па галаве (В.Мартыненку і іншым), а за спробы выказаць альтэрнатыўныя погляды ўладам — штрафаваць (Л.Баршчэўскага і інш.)?

Але ўсё гэта мінецца, як ляснула бальшавіцкая імперыя.

А цяпер пра берасцейскія падзеі.

Прыхільнікі беларускай самастойнасці 2 красавіка каля будынка аблвыканкама наладзілі пікет. Пратэст быў супраць здачы незалежнасці Беларусі, нейкага незразумелага «объединения». Удзельнічалі ў пікеце людзі рознай партыйнай прыналежнасці. Дадам, што я да партый увогуле не належу. Я і мае сябры нічога не маюць і супраць Расіі. Але мы супраць чырвона-карычневага імперскага накірунку ў ёй. Дык вось па складу абставін апынуўся і я 2 красавіка на плошчы, дзе быў пікет. Убачыў, што мая суседка Р.Анціпенка трымае леваруч бел-чырвона-белы сцяг, а праваруч — плакат. Я ўзяў у яе плакат. У 13 гадзін да нас падышлі міліцыянты. Прапанавалі згарнуць транспаранты. Мы падпарадкаваліся. Збіраўся ісці на работу, бо канчаўся час майго абедзеннага перапынку. Але слатой да мяне «прыліп» маёр міліцыі. Пачаў штурхаць, хапаць за плячо, пагражаць кайданкамі. Пры гэтым прадстаўнік правапарадку не ўжыў аніводнага беларускага слова. Затое адборны расійскі мат гучаў сакавіта і квяціста. Якімсьці цудам мне ўдалося пераканаць сп. маёра, што пасля работы з'яўлюся ў РАУС. Я паведаміў свой адрас і быў адпушчаны.

У 17 гадзін у Ленінскім РАУСе на мяне склалі пратакол аб адміністрацыйным парушэнні. Пры гэтым на стале ўжо быў стос запоўненых пратаколаў. Для трох (У.Базана, У.Малея, І.Бараноўскага) ужо адбыўся суд. Для двух першых гэта каштавала па 500 тысяч руб. на кожнага. Для трэцяга, якому ў дадатак парвалі куртку, 700 тысяч руб. А пяцёх, у тым ліку мяне, трымаюць «пад каўпаком». Думаю: «Вось табе і абвешчанае Канстытуцыяй права на свабоду слова, пікетаў».

**В.БАРБОЛІН,**
**сябра Рады ТБМ.**
г.Берасце.

ВУЧЫМСЯ

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## «З афіцыйных крыніц...»

*Веданне афіцыйна-дзелавога стылю, уменне карыстацца ім неабходна кожнаму чалавеку, асабліва цяпер, калі народ усё больш далучаецца да ўдзелу ў дзяржаўным і палітычным жыцці краіны.*

**Алесь Каўрус.**

Афіцыйны стыль выкарыстоўваюць у грамадска значных сферах жыцця, у сітуацыі міждзяржаўных ці дзяржаўных, вытворчых, службовых, прававых судачыненняў, пры якіх паводзіны асоб рэгламентуюцца пэўнымі дзяржаўна-прававымі дакументамі, акрэслены маральна-этычнымі ўяўленнямі. Пры гэтым улічваецца сацыяльны і прававы статус, дзяржаўныя паўнамоцтвы людзей. Адметны ў гэтым стылі спосабы выкладу інфармацыі — у формах прадпісання, канстатацыі і сцвярджэння. Паводле свайго прызначэння афіцыйны стыль звязаны з рэгламентацыяй і загадам, пры якіх моўнымі сродкамі (непасрэдна, у вуснай размове, ці апасродкавана, праз пісьмовую форму) наладжваюцца адносіны паміж афіцыйнымі асобамі, а таксама начальнікамі і падначаленымі, кіраўніцтвам і калектывам, — уладнымі і падуладнымі структурамі. Пры гэтым асаблівая адказнасць у валоданні афіцыйным стылем кладзецца на кіроўныя структуры ўсіх рангаў, бо менавіта яны вызначаюць і падтрымліваюць узровень маўленчай культуры, становяцца прыкладам і мерай ацэнкі для простых шараговых грамадзян.

Афіцыйны стыль з'яўляецца вынікам развіцця народнай свядомасці, фармуецца на лагічнай, інтэлектуальнай аснове, праявай чаго выступае абстрактная лексіка (**уяўленне, узровень, падыход, абмеркаванне, выкананне, павелічэнне** — звычайна ўтвораныя ад дзеясловаў назоўнікі).

Строгасць моманту вызначае адсутнасць у гэтым стылі эмоцый і пачуццяў, ацэначнасці, патрабаванне стрымліваць свае пачуцці, кіраваць імі. Заканамерныя формы афіцыйных адносін, тыповасць пэўных сітуацый вызначаюць упарадкаванасць, шаблоннасць, стандартнасць мовы, узгодненую з рознымі тыпамі афіцыйных дакументаў — распарадчых (загад, пастанова), арганізацыйных (статуты, палажэнні) арганізацыйна-распарадчых (пратакол), інфармацыйна-даведачных (даведка, зводка, акт) ды іншых дакументаў.

Як адлюстраванне ўсеагульнасці афіцыйных зносін у стылі замацаваўся неасабовы ці безасабовы выклад: без займеннікаў (**слухалі, пастанавілі**), формы загаднага ладу (усім **прыйсці** на сход), інфінітыва (без запрашэння не **заходзіць**).

Важным складнікам афіцыйнага стылю з'яўляюцца канцылярызмы (**з'яўляцца, мерапрыемства, у выніку таго, з мэтай, выконваць абавязкі, прымаць удзел** і інш.) Дастаткова шырока выкарыстоўваюцца агульнаўжывальныя нейтральныя словы. Як заўважае М.Я.Цікоцкі, «у афіцыйна-дзелавым стылі ўсе лексічныя, граматычныя і кампазіцыйныя асаблівасці маўлення складваліся аб'ектыўна, па традыцыі, і з'яўляюцца натуральнымі менавіта для гэтага стылю маўлення». Гэтыя традыцыі пачыналі старажытныя юрыдычныя помнікі. Пра стылёвую пераемнасць сведчаць аналізаваныя намі граматы, у якіх выразна акрэсліваюцца якасці, уласцівыя і сучаснаму афіцыйнаму стылю.

*Практычная стылістыка*

# Мы арганізуем...

*«Мы арганізуем і праводзім гурткі, навуковыя даклады, кансультацыі спецыялістаў, творчыя выступленні, семінары, курсы, гурткі, калектывы, канферэнцыі, выстаўкі, фестывалі, асамблеі, кангрэсы, сімпозіумы і іншыя грамадскія акцыі».*

Гэта афіцыйнае выказванне мае выразныя адзнакі адпаведнага функцыянальнага стылю — безэмацыйнасць і строгасць зместу, спецыфічная лексіка, інфарматыўнасць. Аднак адсутнічаюць такія важныя рысы, як выразнасць, зразумеласць, кампазіцыйная ўпарадкаванасць, а таксама дакладнасць, лагічнасць і паслядоўнасць. Усе гэтыя якасці фармуюцца на сінтаксічным узроўні, праз спалучальнасць слоў. Цытаваны ўрывак складаецца з двух аднародных радоў: выказнікі **арганізуем і праводзім**, залежныя ад іх дапаўненні **лекцыі, гурткі, навуковыя даклады** (усяго 16 кампанентаў, некаторыя з якіх маюць свае залежныя словы, што ўскладняе разуменне зместу). Пры гэтым ужытыя назоўнікі складаюць розныя тэматычныя групы: абазначаюць аб'яднанні людзей (**гурток, калектыў**), формы дзейнасці (**лекцыя, выступленне**), культурныя мерапрыемствы (**фестываль, выстаўка**). Словазлучэнне **грамадскія акцыі**, пастаўленае ў канцы выказвання, мае абгульняльны ў адносінах да пералічаных слоў характар, аднак не звязана па значэнні са словамі **гурток, калектыў, даклад** і — у гэтым прычына недакладнасці і невыразнасці. Няправільна ўтвораны аднародныя рады: дапаўненні павінны суадносіцца з абодвума аднароднымі выказнікамі, тады як ужытыя назоўнікі **даклады, калектывы** ў моўнай сістэме не спалучаюцца з дзеясловам **арганізуем**, адпаведна і з дзеясловам **праводзім** не спалучаюцца назоўнікі **гурткі, даклады, выступленні**.

Звярніце ўвагу на форму выкладу афіцыйнай інфармацыі — ад першай асобы, што неўласціва арганізацыйным дакументам. Улічваючы заўвагі, прывядзём адзін з магчымых варыянтаў выпраўлення.

Арганізацыя займаецца навукова-метадычнай і грамадска-культурнай дзейнасцю:

стварае навуковыя і творчыя калектывы; ажыццяўляе кансультаванне і навучанне грамадзян; арганізуе і праводзіць семінары, кангрэсы, асамблеі і сімпозіумы; наладжвае выстаўкі і фестывалі; праяўляе сябе ў іншых грамадскіх акцыях [неабходна ўдакладніць, у якіх].

Неабходна памятаць, што зразумеласць і ўпарадкаванасць адпавядаюць глыбіні думкі, пастаяннай і ўніклівай працы са словам, працы над сабой.

*З гісторыі красамоўства на Беларусі*

# Рубеж зарубити

***Ужо ў самых старых актах пераважае элемент жывой мовы народа...** Такім чынам, наша народная мова ў найбольш чыстым выглядзе ўвайшла ў пісьменства найперш цераз юрыдычную літаратуру.*

**Максім Гарэцкі.**

Адна з грамат полацкага князя Андрэя Альгердавіча захавалася ў напісанай лацінскім шрыфтам копіі XVIII стагоддзя, якая дае ўяўленне не толькі пра змест і стыль старажытнага дакумента, але і пра спецыфіку беларускай графікі. Удакладнім, што ў тэксце перададзена яркая фанетычная асаблівасць беларускай мовы — фрыкатыўны (працяглы) гук [г], пазначаны літарай h: joho, toho. Мяккасць зычнага паказвае літара і, цвёрды [л] перадаецца знакам ł, некаторыя з гукаў абазначаны літарнымі спалучэннямі [ч] — cz, [ш] — sz.

Грамата датуецца часам княжага ўладарання ў Полацку ў 1350—1378 ці 1381—1387 гадамі. У ёй юрыдычна афармлена перадача ўласнасці палачанам бацьку і сыну Корсакам. Як і дарчая князя Траецкаму манастыру, пра што была наша папярэдняя размова, гэты яго дакумент строга вытрыманы ў змесце і кампазіцыі, стандартызаваны ў форме выказвання. Падабенства абедзвюх грамат праяўляецца ў логіцы і моўнай форме выкладу — названы асобы юрыдычнага пагаднення (князь і Фёдар ды Дзмітрый Корсакі), акрэслена сутнасць справы (перадача ім паселішча Семянцова і прылеглых земляў), рэгламентаваны адносіны да ўласнасці, названа мера пакарання парушальнікаў. Усе кампазіцыйныя часткі графічна вылучаны, як і ў папярэдняй грамаце, пачынаюцца злучнікамі **а** (адсутнымі, аднак, ва ўступнай і заключнай фразах) — гэта ўпарадкоўвае выказванне, падкрэслівае яго строгую лагічнасць і паслядоўнасць:

***Se az Kniaz wełyki Andrey Olherdowicz Połocko dały iesmy Fedoru y synu jeho Dmytriju seło Semencowo na Berezwiaczy.***

***A tomy sełu wełyły iesmo y Rubez zarubity...***

***A czerez tot rubez naszym ludem nenadobe chodyty nikomu...***

***A chto tot rubez perestupyt, dast kniaziu welikomy trzy hrywny zołota.***

***A prytom był kniaz Wasiley Drudzki, a Bratosza, a Hirdeni Lobercki(?).***

***A toho rubeza zarubati posyłały iesmo iezdakom Doniarku.***

***U joho pruwileu pieczat** [пячатка] **prywesistaia odna.***

Як бачым, змест гэтай граматы шырэйшы, чым даравальнай Траецкаму манастыру. Адрозненні ў стылі залежаць ад асоб адрасатаў: мерай пакарання абрана грашовае спагнанне *тры грыўны золата*, а не праклён, як у папярэдняй.

У стылістычных адносінах звяртаюць на сябе ўвагу дзве акалічнасці. Першая — падрабязнае дэталізаванае і паслядоўнае пералічэнне межаў валодання: адлюстраваны рэльеф мясцовасці і напрамкі руху па ёй. Сістэмай арыентацыі абраны 18 прыродных аб'ектаў і населеных пунктаў. Яны ўводзяцца ў тэкст стылістычным прыёмам кампазіцыйнага стыку: завяршаюць фразу і пачынаюць наступную. У выніку словамі быццам абмалёўваецца, «зарубаецца» мясцовасць. Прывядзём урывак з такога ўпарадкаванага апісання: ***od reki od Bereswiaczy po reci po Prudyszczynu.., a ot werchowia od Pradyszcznaho rubez po mohu w ozerco w Demianoie, a od Demianoho dorohoiu ku Zaboru, a ot Zaboria dorohoiu ku ozercom...***

Адметна афармлена ў грамаце забарона паляваць і рыбачыць: ***A czerez tot rubez naszym ludem nenadobe chodyty nikomu ni z sobakoiu, a ni z peszneiu.*** Найменне паняцця (**паляванне**) па яго складніку (**сабака, пешня**) уласціва стылям з меншай рэгламентаванасцю моўных сродкаў. Абодва са стылёвых асаблівасцей лагічна звязаны з вуснай формай маўлення, пры якой сродкі афіцыйнага выказвання набліжаны да жывой гаворкі.

У параўнанні абедзвюх грамат выразней праяўляюцца іх адметныя стылёвыя рысы, падкрэсліваюцца сітуацыйна-зместавыя зрухі ў сродках выказвання, што сведчыць пра творчы падыход складальніка тэкстаў да мовы, яе гнуткасць і паслухмянасць — адпаведныя высокаму моўнаму майстэрству, уменню прамаўляць нават у такім сухім і шаблонным стылі, як афіцыйны. Элемент жывой мовы надае яму арыгінальнасць і нацыянальна-культурны каларыт, гарманізуе і сінтэзуе выказванне ў арганічную форму мыслення.

*Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»*

*Валянціна ВЫХОТА*

# Коласавы зернеткі

## (Шматзначнасць нашых і нямецкіх слоў)

*У той жа дзень, праз час каторы,*
*Прыйшоў сюды Марцін з **каморы**,*
*Наўперад ён праз час каторы*
*Быў пры падлоўчым на **каморы**.*

**Камора.** 3. Уст. Кантрольны пункт лясніцтва (ТСБМ); камора уст. лесничество (РБС). У гэтым урыўку слова **камора** мае значэнне лясніцтва.

*Падлоўчы.* Ст. аб'ездчык; ляснічы (ТСБМ).

*Аб'ездчык.* 1. Работнік лясніцтва, які наглядае за вядзеннем лясной гаспадаркі на сваім участку і за работай леснікоў (ТСБМ).

*«Памдзей» аб'ездчык быў няшкодны.*

Да яго звяртаецца ляснічы:

*— Ну, ягамосцю-аматору,*
*Ці правяраў сваю **камору**?*
*— Так, правяраў, панок, вядома.*
*Хіба мне служба незнаёма?*
*— А шмат разоў быў на **каморы**?*
*— Пяць раз, пам-дзею, з пазаўчора.*

Для праверкі ляснічы выклікае каморнага лясніка Астаховіча Зыдора:

*— Адказвай праўду мне, Зыдоры,*
*Як ён даўно быў на **каморы**? —*

З кантэксту відаць, што слова **камора** азначае і ўчастак лесу.

У нямецкай мове словам Kammer, die называюцца дзяржаўныя ўстановы, дзяржаўныя палаты: Kammer f, 3. Kammer für Handelssachen отделение ландгерихта [суда земли] по торговым делам; Kammer der Technik Палата тэхнікі (GDRW).

У В.Ластоўскага — **камора.** *Камора мытная, камора судовая; каморнік.* Спецыяліст па межаванню зямельных надзелаў (ТСБМ).

Гісторыя слова *камора* гл. «Наша слова» № 23—24 (235—236), 1995 г.

*Калі Міхал і пан Ксаверы*
*Узышлі маўчком на двор **кватэры**.*
*Міхал паноў кляне і лае*
*А ён загад з **кватэры** мае*

**Кватэра** 2. Уст. Лясніцтва, памяшканне, дзе жыў ляснічы (ТСБМ). Слову *кватэра* ў гэтым сэнсе адпавядае ням. Forsterei f 1. лясніцтва; 2. дом ляснічага (GDRW).

**Кватэра.** Ням. Quartier, das, с.-в.-ням. quartier n. У 1210 г. пазычана з ст.-франц. quartier m 'чвэрць, чацвёртая частка', якое ўзыходзіць да лац. quartārius m 'чвэрць меры', яно ж у сваю чаргу ўзыходзіць да quartus 'чацвёрты'.

*Культура мовы*

*Павал СЦЯЦКО*

**Крапівоўская** проза — а не **крапівінская.** *«Крапівінская проза падрыхтавала і будучага драматурга».* (Павел Навуменка. Час вяртання даўгоў.//«Роднае слова», 1996, № 3. С. 14.) Форма «крапівінская» — памылковая.

У беларускай літаратурнай мове прыметнікавыя суфіксы з значэннем прыналежнасці **-ін-[-ын-], -оў [-аў, -ёў, еў]** і вытворныя ад іх **-інск-, -оўск-** маюць строгую заканамернасць свайго выкарыстання: **-ін[-ын]** далучаецца толькі да асновы назоўнікаў жаночага роду: *баба — бабін, матка — матчын, сястра — сястрын.* Да асновы назоўнікаў мужчынскага роду (асобы мужчынскага полу) далучаецца суфікс **-оў [-аў, -ёў, -еў]**: *ксёндз — ксяндзоў, брат — братаў, тата — татаў, дзядзька — дзядзькаў, бацька — бацькаў.* Гэтая заканамернасць поўнасцю захоўваецца і пры выкарыстанні ўскладненых суфіксаў (з элементамі -ск-) **-оўск- [-аўск-], -інск- [-ынск-]**: *бацькаўскі і бацькоўскі, мацярынскі* (гл.: Беларуска-рускі слоўнік. 1988, т.1, с. 680).

Таму натуральнымі ёсць формы: **«Скарынаўскі каляндар», «Крапівоўскія п'есы».** Формы кшталту «скарынінскія», «крапівінскія» ненармаваныя. Яны — не што іншае, як перанос на беларускую глебу расійскіх нормаў. Бо гэта ў расійскай мове выкарыстанне суфіксаў **-ин, -инск-** залежыць не ад роду ўтваральных назоўнікаў, а ад тыпу іх скланення, г.зн. усе назоўнікі жаночага і мужчынскага роду з канчаткам -а(-я) скланяюцца аднолькава (адносяцца да першага скланення) і да асновы іх далучаецца той самы суфікс *-ин* ці *-инск-:* мама — мамин, папа — папин, Скорина — Скоринин і Скорининский, Крапива — Крапивинский.

Ці трэба, маючы свае натуральныя формы, карыстацца чужымі, парушаючы літаратурную норму? Дык пільнуймася сваіх, беларускіх заканамернасцяў пры ўтварэнні прыналежных прыметнікаў і вытворных ад іх словаў!

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПО́ЗНІ і ПО́ЗНЫ** (які надышоў, узнік, з'явіўся і пад. пазней звычайнага або вызначанага часу) *Ранняя вясна ці позняя, аднолькава гучна ў галінах зазелянелых бяроз спяваюць чырванагрудыя берасцянкі* (Ігнаценка). *Філістовіча пасадзілі ў самы кут, стары сеў з аднаго боку позняга госця, сын — з другога* (Паўлаў). *Ранняя птушка крылкі цярэбіць, а позняя вочкі трэ* (прыказка). *Прыйшлі багатыя і дурныя людзі і забілі яе* [птушкі] *і пiскляняты цяпер прападуць: вывадак позны* (Самуйлёнак). *Мой сябар.. моцна лае мяне за такое позняе спаннё. Трэба зараз жа ехаць з ім у маёнтак* (Бядуля), **ЗАПО́ЗНЕНЫ** *Паветра дыхала пахамі запозненай вясны* (Марціновіч). *Птушак шнур запознены, восенні праляцеў і скрыўся ў тумане* (Геніюш).

**Позні.** Сінанімічны рад адпаведных прыметнікаў у англійшчыне такі: **late, belated, overdue.** Дамінантай з'яўляецца **late**, а **belated** і **overdue** больш набліжаныя да бел. **запозненьі.**

1. **ПО́КАТАМ** (ляжаць, спаць і пад.: адзін каля аднаго, без абсалютнага парадку) *І ў пакоі, і ў калідорах, і на кухні покатам размяшчаліся людзі* (Корбан). *Покатам ляжалі выносныя сосны, ляжалі ўдоўж і накрыж* (Пестрак). *Сенажаць-трава Ляжа покатам, Стогне зелен бор Пад рукой маёй* (Купала), **УПО́КАТ** разм. *Хлопцы спалі на нарах у кутку ўпокат і трымаліся адной сям'ёй у працы і ў барачным жыцці* (Пестрак). *Ляжаць упокат зваленыя сосны, Галлё і друз паскіданы ў лаўжы* (Панчанка). *А на палянах — там, дзе бор. Пад салаўіны свіст і цюкат Ад вечара да позніх зор Зямля і ноч ляжаць упокат* [у вобразным ужыв.] (Матэвушаў).

2. **ПО́КАТАМ** разм. (са словамі **класціся, качацца, смяяцца, рагатаць** і інш.: моцна, гучна, нясцерпна смяяцца) *Зося і яе матка покатам клаліся са смеху* (Бядуля). *Каб ён ведаў, што я тут вытвараю! Смяяўся б покатам, цешыўся б* (Гартны). *Рудольф покатам зарагатаў* (Гартны), **УПО́КАТ** разм. *Чыгуначнікі аж упокат слаліся* [ад смеху] (Васілёнак). *Яна* [Вікця] *гаварыла Фэлікавым голасам, і за ёю амаль упокат рагаталі і хлопцы і дзяўчаты* (Далідовіч), **ПО́КАТНА** разм. *Галя покатна зарагатала* (Гартны).

3. **ПО́КАТАМ** (рухаць, перамяшчаць і пад.: пры дапамозе качэння) *Два калгаснікі канём.. выцягвалі бярвенне да дарогі і тут жа покатам грузілі на машыны* (Дуброўскі), **КО́ЦЯЧЫ** *Перамяшчаць калоду коцячы.*

4. **ПО́КАТАМ** (рухацца, перамяшчацца і пад.: верцячыся, рухацца ў адным напрамку — пра што-н. круглае, шарападобнае або пра чалавека, жывёлу) *Добра, што нас не мінулі дажджы: прабеглі па пожнях, прайшліся балотамі, па воўчых ярах пракаціліся покатам* (Рудкоўскі). *— Каціся покатам адсюль! — штурханула дзячыху Хвядосся* (Аношкін), **КО́ЦЯЧЫСЯ** *Калода перамяшчалася з узгорка коцячыся.*

*Рэха Чарнобыля*

# Пратэстуе Акадэмічная суполка ТБМ

Акадэмічная Рада ТБМ накіравала афіцыйную заяву Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь сп.Сямёну Шарэцкаму і Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь сп.Васілю Капітану.

У заяве выказваецца рашучы пратэст у сувязі з незаконным арыштам 26 красавіка 1996 г. арганізатараў і ўдзельнікаў традыцыйнага (з 1989 г.) жалобнага шэсця «Чарнобыльскі шлях» і санкцыянаванага ўладамі г.Менска мітынгу-рэквіема ля Палаца спорту, у прыватнасці, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара Юрыя Хадыкі, кандыдата філалагічных навук Лявона Баршчэўскага, філолага і распрацоўшчыка навуковай тэрміналогіі Вінцука Вячоркі — актыўных носьбітаў і прапагандыстаў роднага слова, вядомых навукоўцаў і таленавітых педагогаў, — а таксама дзесяткаў іншых грамадзян краіны, падставай для затрымання якіх нават далёка ад месца правядзення акцыі з'яўляліся беларуская мова і нацыянальная сімволіка (нагрудныя значкі «Пагоня», бел-чырвона-белы сцяжок, згорнуты сцяг).

Гэта, гаворыцца ў заяве, ёсць парушэнне элементарных правоў і свабод чалавека, гарантаваных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь (шэраг артыкулаў Раздзела II), найперш права жыць і, усведамляючы смяротную небяспеку наступстваў чарнобыльскай атамнай катастрофы, публічна папярэджваць насельніцтва аб гэтай небяспецы і патрабаваць ад уладаў мабілізацыі ўсіх магчымых сродкаў дзеля забеспячэння будучыні беларускай нацыі. Такім неабыякавым грамадзянам трэба было паспрыяць, а не перагароджваць шлях, правакуючы іх на абурэнне і непажаданыя дзеянні, не збіваць дубінкамі інтэлігентных людзей са свечкамі ды потым у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі абзываць «п'янымі і нідзе непрацуючымі». Крыўдна і жахліва.

Па-другое, падкрэсліваецца ў заяве, у чарговы раз праявілася дыскрымінацыя беларусаў па моўнай прыкмеце на сваёй этнічнай радзіме, у сваёй дзяржаве.

Акадэмічная суполка ТБМ просіць Вярхоўную Раду (Савет) і Пракуратуру Рэспублікі Беларусь тэрмінова ўмяшацца ў дадзеную справу і патрабуе неадкладнага вызвалення затрыманых грамадзян, недапушчэння ганебнага судовага працэсу.

*Рэха Чарнобыля*

# Чарнобыльскі шлях на Украіне

З 12 па 27 красавіка міжнародная арганізацыя «FOR MOTHER EARTH» (За маці-Зямлю) праводзіла акцыю, прысвечаную дзесятым угодкам чарнобыльскай катастрофы. Удзельнікамі яе сталі некалькі дзесяткаў маладых людзей з Беларусі, Украіны, Славакіі, Германіі, Бельгіі, Фінляндыі, ЗША. Нашу краіну прадстаўлялі каля двух дзесяткаў асобаў, у тым ліку і сябра Светлагорскай раённай Рады ТБМ Алесь Мазур.

Акцыя пачалася з імшы, адслужанай у кіеўскай царкве памяці ахвяраў Чарнобыля. Потым яе ўдзельнікі на пляцы перад царквою зладзілі пэрформэнс, які ілюстраваў падзеі дзесяцігадовай даўніны і іх вынікі: людзі ў камбінезонах радыяцыйнай бяспекі нерухомыя падалі на зямлю, адзіны, які застаўся стаяць, быў убраны ў строй, што сімвалізаваў смерць. Так пачалася акцыя, працягам якой стала падарожжа ад Кіева да 30-кіламетровай зоны вакол Чарнобыля, маючай забруджанасць звыш 2 кюры. Уначы з 25 на 26 красавіка ўдзельнікі антыядзернай вандроўкі пікетавалі кантрольна-прапускны пункт на шашы, якая вядзе ў зону — са Славуціча ў Чарнобыль. Каля гадзіны ночы 26 красавіка яны, прыкаваўшы сябе кайданкамі да рэек, спынілі чыгуначны рух паміж Славуцічам і Чарнобылем. Удзельнікі акцыі на чыгунцы былі затрыманы міліцыяй. Інфармацыя аб гэтай падзеі прайшла па тэлевізійных каналах Украіны і шэрагу краін Заходняй Еўропы. 27 красавіка падарожнікі, вярнуўшыся ў Кіеў, збіраліся ўтварыць жывы ланцуг ад Міністэрства энергетыкі Украіны да музея Чарнобыля, але гэты чын быў забаронены ўладамі.

**У.ПАНАДА.**

*Заявы*

# Не збівайце журналістаў, яны выконваюць свой прафесійны абавязак

Пад час шэсця па сталічнаму праспекту «Чарнобыльскі шлях-96» 26 красавіка і на першамайскай дэманстрацыі больш за 10 журналістаў былі збітыя (сярод іх значыцца і карэспандэнт «Нашага слова» Алесь Мікалайчанка), іншым калегам ахоўнікі парадку перашкаджалі выконваць прафесійны абавязак. З гэтай нагоды Беларуская асацыяцыя журналістаў прыняла заяву, дзе асаблівая ўвага звяртаецца на асабліва жорсткія дзеянні міліцыі адносна карэспандэнта беларускай службы радыё «Свабода» Эдварда Тарлецкага. У выніку ўдару спецдубінкай ён быў сур'ёзна паранены ў галаву. Карэспандэнт польскай «Gazety Wyborczej» Цэзары Галінські, акрэдытаваны ў Менску, таксама атрымаў удар дубінкай у твар. Акрамя таго, органамі міліцыі былі затрыманыя па абвінавачванні ў «хуліганстве» галоўны рэдактар другой праграмы Беларускага дзяржаўнага радыё («Радыё-2») Уладзімір Дзюба і вольны журналіст Алег Трызна.

Ахвярамі жорсткіх дзеянняў міліцыі 26 красавіка сталі таксама карэспандэнт Расійскага тэлебачання Леанід Свірыдаў, журналіст часопіса «Спадчына» Вячаслаў Ракіцкі.

«Гэта толькі некаторыя факты, якія сведчаць пра суцэльны гвалт з боку ўладаў, што панаваў на вуліцах сталіцы Беларусі... Падобным дзеянням няма і не можа быць ніякіх апраўданняў у цывілізаваным свеце», — падкрэсліваецца ў Заяве. На вялікі жаль, не абышлося без прыкрых інцыдэнтаў і пад час першамайскай дэманстрацыі ў Менску. Фотакарэспандэнту газеты «Рэспубліка» Леаніду Кушнеру адзнятую ім стужку засвяцілі. У карэспандэнтаў тэлекампаніі НТВ невядомыя асобы «ў цывільным» канфіскавалі відэакасету з матэрыялам. Незалежны фотакарэспандэнт Уладзімір Кармілкін быў дастаўлены ў міліцэйскі пастарунак за «ўдзел у мітынгу»(!)...

БАЖ заклікаў журналістаў усіх дэмакратычных краін праявіць салідарнасць са сваімі беларускімі калегамі, а таксама тымі карэспандэнтамі замежных выданняў, якія вымушаныя працаваць у Беларусі ва ўмовах поўнай непавагі да элементарных правоў Чалавека.

Свае заявы наконт збівання журналістаў прынеслі Беларускі Хельсінкскі камітэт, Беларускі ПЭН-цэнтр, Фонд галоснасці ў Маскве, іншыя грамадскія і грамадска-палітычныя арганізацыі Беларусі і Еўропы.

**А.М.**

# ДА ЎВАГІ БУДУЧЫХ ФІЛОЛАГАЎ, ГІСТОРЫКАЎ, ДЫПЛАМАТАЎ, ЮРЫСТАЎ, ЭКАНАМІСТАЎ

**ЛІЦЭЙ**

**Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра**

АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ

навучэнцаў на 1-ы курс (8-ы клас).

У ліцэі на паглыбленым узроўні вывучаецца літаратура, гісторыя, родная і замежныя мовы, гісторыя культуры, матэматыка (з 10-га класа). Як першая замежная мова вывучаюцца: англійская, нямецкая, французская, іспанская, як другая — лацінская, польская, чэшская, англійская, нямецкая і іншыя мовы.

У ліцэй прымаюцца на конкурснай аснове навучэнцы, якія паспяхова скончылі 7 класаў. Свайго інтэрната ліцэй не мае.

Навучанне бясплатнае. Асноўная мова навучання — беларуская.

Пры паступленні праводзяцца наступныя іспыты:

28 траўня — бел. мова (дыктоўка)

31 траўня — гісторыя Беларусі (пісьмова)

3 чэрвеня — тэст на агульнае інтэлектуальнае развіццё (пісьмова), замежная мова (вусна).

4 чэрвеня 1996 г. праводзіцца гутарка членаў прыёмнай камісіі з абітурыентамі, якія атрымалі найбольшую колькасць балаў. У гэтую колькасць залічваецца гадавая адзнака за 7-ы клас па матэматыцы.

Абітурыенты павінны прадставіць у камісію наступныя дакументы: асабістую заяву, мед. даведку (форма 286), завераны пячаткай табель паспяховасці за 7-ы клас.

Дакументы прымаюцца па 27 траўня (табель паспяховасці — 27—28 траўня) па адрасе: 220050, г.Менск, вул.Кірава, 21, пакой сакратара. Тэлефоны для даведак: 2-27-32-77, 2-27-54-42.

*Маладая Беларусь*

# Пачаў выпускацца «Веснік Ліцэя»

Не так даўно навіна, якая абляцела ліцэй пры БДУ, стала рэальнасцю. Быў выдадзены першы нумар часопіса «Веснік Ліцэя». Падстава была. І нават не адна. Па-першае, дзень нараджэння ліцэя (яму споўнілася 6 год). Па-другое, часопіс — хоць нейкая, але база дзеля будучых філолагаў, журналістаў, гісторыкаў, фізікаў і ўсіх тых, у каго закладзена прага ведаў, доследаў, павышаная цікаўнасць да навукі. Не менш важна і тое, што «Веснік Ліцэя» згуртаваў вакол сябе аўтарскі актыў з ліку педагогаў і ліцэістаў. З дапамогай амаль што 80-ці старонак гэтага выдання кожны чытач узбагаціць сваю эрудыцыю. Напрыклад, па-новаму зірне на перыядычны закон Дз.Мендзялеева, даведаецца аб агульнай мове зямлян, пазнаёміцца з літаратурнымі творамі самых ліцэістаў і атрымае магчымасць папрактыкавацца ў вырашэнні мудрагелістых задач. Гэта ўсё добра. Але ёсць, канешне, і свае мінусы.

Па-першае, ліцэй існуе пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. Але ж беларускае слова не вельмі часта сустракаецца на старонках «Весніка». Тры—чатыры артыкулы, нягледзячы на тое, што многія з іх можна было б напісаць на беларускай мове. Побач з асобнымі словамі «всеобщего языка землян» значыцца іхні пераклад... на ўсё той жа расійскай мове, а вось на пераклад у беларускую месца не знайшлося. Балюча за сваю родную мілагучную мову. Безумоўна, Блок, Мендзялееў — яны расійцы і зневажаць іх мовы сэнсу няма, але ж і сваю абязддольваць не трэба. Паліграфія, якасць паперы, падборка матэрыялаў заслугоўваюць пахвалы. Але кепска, што ні аўтары, ні рэдакцыя роднага слова не заўважалі, быццам яго наогул не існуе.

Але гэта першы крок. І, спадзяюся, крок наперад. Не буду браць на сябе права нейкага там суддзі. Але сваё меркаванне выказаць усё ж вырашыла. Пажаданне часопісу і яго аўтарам адзінае: імкніцеся наперад, але ж і азірайцеся назад. Каб на гэтым шляху ніколі не забыцца пра адказ на пытанне Янкі Купалы «А хто там ідзе?»

Успомнілі? «Беларусы», — адказаў пясняр.

**Г.НАДЗЕЙКА, ліцэістка.**

# Беларусь—Германія: новае асэнсаванне

Нашыя адносіны з немцамі ў розныя часы складваліся неаднолькава. Былі і войны, але існавалі і гандлёвыя, а таксама культурныя сувязі. Калісьці ў нас была нават агульная дзяржаўная мяжа. На карце БНР яна невялікая, але ў 1939 годзе мела большую працягласць. Цяпер мы, не маючы гэтай мяжы, тым не менш, усё часцей згадваем гісторыю беларуска-нямецкіх стасункаў, імкнёмся зрабіць разнастайныя кантакты шчыльнейшымі.

Менавіта такім кантактам прысвечаны трэці нумар інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня «Кантакты і дыялогі», які выдаецца ў Менску. На гэты раз яго чарговы выхад прымеркаваны да пасяджэння Круглага стала «Беларуска-нямецкае гісторыка-культурнае ўзаемадзеянне: гісторыя і сучаснасць», якое адбылося 29—30 красавіка. У бюлетэні чытач знойдзе артыкул Г.Сагановіча «Полацк і інфлянцкія немцы ў XIII ст.». У.Сакалоўскага «Беларускае Адраджэнне і далучэнне нямецкіх вучоных да даследавання беларускай культуры», Р.Ліндэнера «Беспераныннасць і зменлівасць у гістарычным мысленні беларусаў» і інш. На гэтую тэму сапраўды ёсць шмат чаго казаць, пісаць. Дапытлівы чытач, узяўшы ў рукі гэты змястоўны нумар бюлетэня, зможа паразважаць самастойна пра сказанае ў публікацыях, выказаць свае меркаванні наконт разглядаемай праблемы.

Увогуле, мінуў час састарэлых стэрэатыпаў, калі мы бачылі на экранах прымітыўныя савецкія фільмы пра вайну, у якіх немцаў паказвалі ў карыкатурным абліччы. Нямецкі народ і ягоная культура маюць шмат слаўнага ў гісторыі. Гэта беларусы ў многім яшчэ толькі адкрываюць для сябе.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

*ФІЛАСОФІЯ ПА-БЕЛАРУСКУ*

З'явілася выданне *Філасофія: Вучэб. дапаможнік Выд. 2-е перапрац. і дап. Мн., 1996.* Кніга прызначана для студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ, іншых навучальных установаў, настаўнікаў. У дапаможніку ёсць раздзелы: Філасофская прапедэўтыка; Філасофскае разуменне свету; Праблема метаду ў філасофіі; Пазнанне. Навуковае пазнанне; Сацыяльная філасофія. Грамадства — сістэма, якая развіваецца.

Цікава адзначыць, што ў кнізе друкуюцца главы: «Гісторыя рускай філасофіі» і «Філасофская думка на Беларусі». Варта задумацца: чаму апошняя з названых главаў не названая так: «Гісторыя беларускай філасофіі»? Акрамя таго, паўстае пытанне: што значыць руская? Ці то гэта маецца на ўвазе прыналежная да старажытнай Русі? А мо, тут сучасная афіцыйная трактоўка слова «рускі»? Бо, сапраўды, спачатку, гаворачы пра «рускую» філасофію, аўтар называе, напрыклад, імя Кірылы Тураўскага, пра якога ідзе гаворка і ў главе «Філасофская думка на Беларусі». У першай главе, акрамя ўсяго, гаворыцца перш пра «айчынную філасофію», пра старажытную Русь. Тут можна думаць: гаворка — пра тое, што мае дачыненне да нас. Але ў гэтай жа главе называюцца імёны Д.Фанвізіна, А.Радзішчава, П.Чаадаева, М.Бярдзяева... І гэта айчынная філасофія?

Без памылак, на жаль, выданне не абышлося. У главе, прысвечанай беларускай філасофскай думцы, напісана пра спаленне трактата К.Лышчынскага «Аб існаванні Бога». Але атэіст Лышчынскі, як вядома, з'яўляецца аўтарам трактата «Аб неіснаванні Бога» («De non existentia Dei»).

У вогуле ж, выданне чытаецца з цікавасцю. Аўтары намагаліся разглядаць праблемы з пазіцыі агульначалавечых каштоўнасцяў, дасягненняў гісторыі філасофіі, сучаснай навукі і сацыяльнай практыкі. Але вось у першым раздзеле чытаем: «...шмат якія культурныя і эстэтычныя каштоўнасці антычнай эпохі перажылі гібель цывілізацыі, якая спарадзіла іх, захаваліся і зараз як агульначалавечыя каштоўнасці з'яўляюцца важнейшым элементам духоўнай культуры чалавецтва.

Такія ж адносіны павінны быць і да каштоўнасцей гістарычнай эпохі савецкага народа, звязанай з Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыяй...» Як бачым, па-ранейшаму — Вялікая Кастрычніцкая.

Наогул, у прадмове «Да чытача» гаворыцца: «...аўтары не прэтэндуюць на ісціну ў апошняй інстанцыі і гатовы з удзячнасцю прыняць заўвагі і прапановы ўдумлівага чытача ці субяседніка». Дык жа чытай, думай і разважай, чытач.

**Кніжнік.**

